


Пасядзім на сонейку. Фота Я. Чэрнякевіч.

№ 32 (1095) ГАЗЕТА БЕЛАРУСКІХ ДЗЯЦЕЙ У ПОЛЬШЧЫ 6.VIII.1978 г.

Р. Бензярук

## ЦІ СТРАШНАЯ ХМАРА?



Да Ганькі прыехала з горада сяброўка Ірынка. Назаўтра дзяўчынкі пайшлі ў лес па ягады.

З дому выбраліся, калі сонца сагнала расу і нават пачало прыпякаць.

Дзяўчынкі падышлі да льнянога поля. Больш як тыдзень не было дажджоў, і лён апусціў галоўкі. Ганька ўспомніла, як яе мама, вяртаючыся дадому, уздыхае: „Ой, загіне лён!..“

— Каб хоць дождж пайшоў, — сказала цяпер Ганька. Ірынка здзіўлена паглядзела на яе.

Гадзіны праз дзве дзяўчынкі вярталіся дамоў. Лён яшчэ больш прытнуўся да зямлі.

Раптам, азірнуўшыся, Ірынка жахнулася:

— Глядзі, якая страшная хмара!

— І зусім не страшная, — запярэчыла Ганька. — Яна зараз абмые ўсё-ўсё, і адразу ўсюды стане зелена. І лён таксама акрыяе.

Але Ірынка і слухаць яе не хацела:

— Пайшлі хутчэй, а то зараз да ніткі вымачыць. І ягады вымакнуць.

Як ні спяшаліся дзяўчынкі, хмара неўзабаве дагнала іх. Сыпануў дождж, недзе над самымі галовамі загрукатаў гром.

— Нічога, — суцяшала сяброўку Ганька, — большыя вырасцем...

Нарэшце дзяўчынкі ўзбеглі на ганак. Мокрае адзенне прыліпла да цела, але было зусім не холадна.

Гэтак жа раптоўна, як і пачаўся, дождж перастаў. Выглянула сонца. Амаль на паўнеба зазззяла вясёлка. Адным канцом яна ўпіралася ў той лес, адкуль толькі што прыбеглі дзяўчынкі.

Хмара, пагрукваючы, аддалялася. Усё адразу быццам памаладзела.

І лён узняў галоўкі. Дзяўчынкі глянулі на ягады. Яны былі бліскучыя і свежыя-свежыя. Нібы іх толькі што знялі з куста.

## САЛОДКІЯ ЯБЛЫКІ



*За сялом, на ўзлеску, расла яблыня-дзічка. Кожную вясну яна была ўсыпана квеценню. Але яблыкі раслі невялікія, зялёныя і кіслыя. Ніхто іх не падбіраў.*

*Аднойчы тут гулялі ў хованкі Васілёк, Ганька і Ірынка. Жмурылася Ганька. Яна лічыла: „Раз, два, тры, чатыры, пяць! Я ўжо іду шукаць!“*

*Расплюшчыла вочы і ўбачыла зусім недалёка Васілька. Дзяўчынка радасна ўсклікнула:*

*— Васілёк!*

*А хлопчык прыклаў палец да вуснаў: „Ціішэ-эй!“*

*Глянула Ганька, куды паказваў хлопчык, і забылася пра гульню. Пад яблыняй тупаў вожык. Ён стараўся накалоць на спіну яблык.*

*Прыбегла Ірынка і сказала:*

*— Я дапамагу яму.*

*Ганька схапіла сяброўку за руку:*

*— Не палохай!*

⟶

←

*Вожык накалоў яблык і, не спяшаючыся, патупаў у лес.*

*— Гэтыя яблыкі такія кіслыя! — скрывілася Ганька.*

*— А я ведаю, дзе салодкія, — сказаў Васілёк. І павёў дзяўчынак да саду.*

*— Дзядзька Адам, дайце нам яблыкаў, — папрасіў Васілёк.*

*Ганька перабіла яго:*

*— Нам трошкі. Мы іх вожыку занясём.*

*— Бярыце, бярыце. І сабе, і вожыку.*

*Дзеці выбралі тры прыгожыя салодкія яблыкі, занеслі іх пад дзічку, а самі пачалі цікаваць здалёк.*

*Вожык адразу заўважыў яблыкі з саду. І, хоць навокал ляжала шмат іншых, першымі занёс іх у сваю кладоўку.*

## БЯРОСТАВЫ КОЎШЫК



Васілёк з татам пайшлі ў лес па ягады.

— Сёння пойдзем туды, дзе ты, відаць, яшчэ ніколі не быў, — сказаў тата.

Доўга яны ішлі ледзь прыкметнай сцяжынкай. Нарэшце апынуліся на вялікай прыгожай паляне. Уся яна была ўсыпана буйнымі спелымі ягадамі. З бакоў паляну акружалі хвоі — веліканы. Тут было зацішна і ўтульна. Хвоі ледзь-ледзь шапацелі вершалінамі.

Тата адразу нахіліўся і пачаў збіраць ягаду за ягадай у гарлачык. Васільку не хацелася гнуцца. Ён сарваў некалькі галінак і ўзяўся аб'ядаць чарніцы стоячы. Затым, шукаючы больш буйных ягад, рушыў на сярэдзіну паляны.

Гэта заўважыў тата:

— Васілёк, а ну вярніся назад. Ты стаптаў ужо некалькі кусцікаў ягад!

— Ну і хай! — абыякава адказаў сын. — Ты ж паедзеш на месяц у камандзіроўку, а мама гэтак далёка ў ягады не ходзіць.

— Дык іншыя людзі прыйдуць.

Васілёк нічога не адказаў, але вярнуўся да бацькі і пачаў памагаць яму збіраць ягады.

...Дадому яны ішлі іншай дарогай, больш далёкай. Васілёк хутка стаміўся і захацеў піць.

— Зараз крынічка будзе, — супакоіў тата.

Неўзабаве ён расхінуў у адным месцы кусты, і Васілёк убачыў, што з-пад зямлі б'е вада. Хлопчык хацеў набраць у прыгаршчы вады, каб напіцца, але тата спыніў яго:

— Пачакай.

Тата падышоў да бярозкі, зняў з сучка самаробны коўшык, набраў вады і падаў сыну.

— Гэта твой коўшык? — спытаў Васілёк.

— Не, наш, грыбнікоў. А лепш сказаць — дзеда Лявона. Ён зрабіў гэты коўшык.

— Якога дзеда Лявона? Таго, што памёр?

Васілёк успомніў, што часта сустракаў дзеда Лявона, калі той з поўным кошыкам вяртаўся з лесу.

— Дык вось дзед Лявон зрабіў бяроставы коўшык, — расказваў далей тата, зачэрпваючы ваду. — І павесіў ля крынічкі, каб грыбнікі маглі папіць таючай вадзіцы. От і мы пап'ём ды ўспомнім добрым словам дзеда Лявона...

**М. Плавільшчыкаў**

# Прыгоды ката Хауса



Хаус — гэта імя ката. Але не нашага шэрага ці чорнага з доўгім пухнатым хвастом і белымі вусамі.

Не. Хаус быў дзікім катом. Ён ніколі не бачыў ні дахаў, ні памыек. Ён не ведаў, што такое гарышча, падвал, клуня. Яго жыллём быў густы чарот.

І таму, што Хаус жыў у чароце, яго называлі яшчэ чаротавым катом.

Хаус — гэта вельмі дзікі кот. Такі дзікі, што пагладзіць яго не можна было ніяк. Убачыць Хаус здалёк чалавека — і шусь у чарот. Знайдзі яго там! А калі б і знайшоў яго чалавек, калі б і ўдалося яму падысці да ката блізка-блізка, дык і тады не пагладзіў бы.

Гладзяць пальцамі, а Хаус не любіў жартаваць. Хапіла яму раз-другі разявіць пашчу і паказаць белыя зубы і ярка-ружовыя дзёсны, як... Дзе ж пальцы? Адгрыз!

Вось і не гладзіў яго ніхто. Ніхто не чухаў яго за вухам, ніхто не казытаў яму шыйку.

Хаус не пераймаўся гэтым, не мяўкаў, не прасіў пагладзіць. Ён быў дзікім катом, і чалавек для яго не прыяцель, а вораг.

*

Хаус нарадзіўся сляпым кацянём. У яго былі два браты і дзве сястры. Хаты ў іх не было — яны жылі проста на купіне сухога чароту.

Калі ў кацянят адкрыліся вочы і памацнелі ногі, яны пачалі бегаць вакол свайго жылля.

Кацяняты лавілі матылькоў і жабак, гулялі адзін з другім. А калі змучацца, дык збіваліся ў кучку і драмалі. Хутка малако маці ім збрыдла. Кацянятам хацелася нечага іншага. Яны не ведалі, чаго хочуць, але маці ведала. Яна прынесла ім раненую птушачку.

Калі Хаус убачыў птушачку, ён кінуўся да яе. Птушачка паскакала па чароце — у яе былі пераломаны крылы. Хаус хацеў дагнаць яе, але птушачка так спрытна скакала, што ён змарыўся, а злавіць птушачку ніяк не мог.

Нарэшце Хаус дагнаў птушачку. Але тая падскочыла і дзюбнула яго проста ў нос. Хаус фыркнуў, зачыхаў і замяўкаў. Ён адсунуўся ад птушачкі, а тая ляжала на баку і адчыняла дзюбку. Хаус спалохаўся, што яна зноў дзюбне, і ўцёк. Да птушачкі падышоў брат Хауса. Ён ударыў яе лапай, прыдушыў, а потым пачаў есці.

Хаус убачыў, як брат еў птушачку. Ён падышоў, але брат забурчаў так злосна, што Хаус не папрасіў падзяліцца. Затое ён ведаў, што баяцца птушак не трэба. І наступную птушку ён злавіў і з'еў многа хутчэй, чым брат.

Прайшло з паўгода. Хаус значна

падрос. Поўсць яго зрабілася густая і роўная, шэра-жоўтая. Хвост кароткі, і трымае яго Хаус часта тырчком уверх. Морда тоўстая, а вочы ўжо не дзіцячыя. Злосныя зрабіліся вочы ў Хауса, як і належыцца даросламу чаротаваму кату.

Пайшоў Хаус ад маці, пайшоў ад братоў і сясцёр. А можа, і не ён ад іх пайшоў, а яны ад яго. Хто іх там зразумее? Жылі-жылі разам, а як выраслі, так і пайшоў хто куды. Па чароце разбрыліся, па кустах. Яны ўсе засталіся каля той жа рэчкі, а не сустракаюцца. А калі і сустрэнуцца ноччу на паляванні, дык не на дабро — паб'юцца.

Хаус пачаў жыць адзін. Спачатку яму было цяжкавата — кепскі з яго быў паляўнічы.

Убачыў Хаус у кустах зайчаня. Скочыў, злавіў яго. Зайчаня было зусім маленькае — ці ж можа яно ўцячы ад ката?

З'еў Хаус зайчанятка, і яшчэ больш яму есці захацелася. Пайшоў ён па чароце. Чуе — шапаціць нешта. Лёг ён на бруха, папоўз, у кусты схаваўся. Глядзіць Хаус з куста, а на палянку вялікая птушка выбегла. Прыгожая такая птушка — хвост доўгі, па зямлі валачэцца, а сама блішчыць на сонцы.

Заціх Хаус у кустах, толькі вусамі варушыць. А фазан — гэта ён быў — па палянцы ходзіць, дзяўбе нешта. Не цярпіцца Хаусу, так і скочыў бы. Але далёка да птушкі. Чакае Хаус, ніяк не можа дачакацца, калі ж птушка да яго бліжэй падыдзе.

Падышоў фазан. Скочыў Хаус. Фрррррррр!.. Фазан паляцеў, а ў Хауса ў зубах доўгае пяро з фазанавага хваста засталося.

Прамахнуўся Хаус, не за тое месца птушку схапіў. Трэба было за горла хапаць, а ён — за хвост.

Паглядзеў Хаус услед фазану, выпусціў пяро з рота. А яго вецярок падхапіў, закруціў над травой. Не вытрымаў Хаус — скочыў за пяром. Пяро далей, а Хаус за ім.

Так і скакаў ён з пяром, нават пра голад забыўся. Ён жа ж зусім яшчэ малады быў, не кот нават, а так напалавіну кот, а напалавіну кацянё.

*

Як толькі сцямнела, Хаус выйшаў на паляванне. Выйшаў ён з чароту, дзе спаў у дзень, і пайшоў па кустах. Ён ішоў ціха і асцярожна. Яго зялёныя вочы ўглядаліся ў чарот, а вусы ціха падрыгвалі. Хвост стаяў амаль тырчком, як сцяг. Гэта было нібы сігнал: „Я на паляванні!“.

У чароце то тут, то там чуўся шолах. Хаус прыслухоўваўся , і ішоў далей. Шапацелі дробныя птушкі і звяркі. Гэта здабыча не цягнула яго. Хаус быў вельмі галодны, і ўсё ж шукаў большую дзічыну.

Здалёк пачуўся шолах, потым тупат. Нехта ціха візгнуў. Нехта рохкнуў.

Хаус насцярожыўся, прыпаў да зямлі, замёр.

Дзікі — небяспечныя суседзі. Але Хаус быў галодны, а ў статку былі і парасяты. Гэта здабыча — для Хауса.

Хаус ляжаў і цярпліва чакаў. Яго вочы гарэлі, хвост ледзь дрыжаў. Дзікі падыходзілі ўсё бліжэй і бліжэй. Вось дзікі побач. Хаус бачыць, як мільгаюць сярод чароту цені, чуе, як сапуць дарослыя кабаны. Чуе, як тупочуць парасяты, як яны папіхваюць адзін другога.

**Працяг будзе**


ПАГЛЫБЛЯЙ

СВАЕ ВЕДЫ


# ВЯЛІКІ ВЫХАВАЎЦА І ЧАЛАВЕК

У годзе пад патранатам ЮНЕСКО ўвесь свет адзначае сотую гадавіну з дня нараджэння слаўнага педагога, пісьменніка і даследчыка Януша Корчака.

Шырокім масам чытачоў Януш Корчак вядомы як выхаваўца, які ў цяжкую хвіліну не пакінуў дзяцей-сірот і разам з імі пайшоў на смерць. 5 жніўня 1942 года фашысты пагналі дзяцей з Дома сірот, які змяшчаўся ў Варшаве па вуліцы Слізкай, у Трэблінку. Януш Корчак не пакінуў дзяцей, хоць сам мог уратавацца, і разам з імі пайшоў у газавую камеру. „Доктар нёс на руках наймалодшую дзяўчынку, Ромцю, — піша ў сваёй кніжцы аб доктару Корчаку В. Жулкеўская. — Каля яго ішоў хлопчык з зялёным сцягам Дома Сірот. Не ўзялі з сабой нічога, толькі маленькія клуначкі. Пайшлі чацвёркамі. Доктар казаў дзецям, што на экскурсію ў вёску...“

Януш Корчак не быў чалавекам аднаго, хоць найбольш высакароднага ўчынку. Яго рашэнне не пакінуць дзяцей у страшную хвіліну было вынікам усяго яго жыцця, велічы прынцыпаў, якія сам прызнаваў і якія выхоўваў у дзяцей.

Лекар па прафесіі, і выхаваўца па прызванню прабіваў у часы буржуазнай Польшчы шлях да новых прынцыпаў выхоўвання дзіцяці, змагаўся за прызнанне правоў для дзяцей сіроцкага лёсу, не абмяжоўваўся толькі да стварэння ім фізічнага быту ў буржуазных ахранках, стараўся ўздзейнічаць на сэрца і характар дзіцяці. Уводзіў у сірацінцах, дзе працаваў, прынцыпы самакіравання і самавыхоўвання. Нават ва ўмовах варшаўскага гета ў доме сірот не пераставаў працаваць дзіцячы тэатр. Ставіліся п’есы, развучваліся песні, пазнавалася паэзія. Усім сэрцам выхаваўцы стараўся аблегчыць лёс сірот, памагчы ім у страшны час менш адчуваць голад, сіроцтва, несправядлівасць і бяздушнасць акупантаў.

Свой выхаваўчы вопыт Я. Корчак перадаваў іншым у шматлікіх працах, якія і па сённяшні дзень служаць педагогам.

Нямала выйшла з друку кніжак аб жыцці і творчасці вядомага педагога і Чалавека, а таксама збор твораў і артыкулаў, напісаных самім Янушам Корчакам. Яго кніжкі для дзяцей выдаваліся і перавыдаваліся шмат разоў. Цяпер тэатры ставяць п’есы аб Корчаку і яго ўласныя. А па кніжцы Януша Корчака „Кароль Мацюсь І“ нават зроблены кінафільм у пастаноўцы Ванды Якубоўскай, добра вядомы ўсім дзецям.

Кніжкі слаўнага педагога ў наш час сталі любімай літаратурай для дзяцей і дарослых. (яч)

## У НАВАЛЬНІЦУ

Што рабіць, калі вас нечакана захапіла навальніца?

Калі навальніца зусім побач, а вы ў гэты час дзе-небудзь у полі, на адкрытым месцы, старайцеся пазбегнуць удару маланкі. Большасць людзей чамусьці хаваецца ад дажджу пад дрэвамі або каля стога. Гэта памылка, за якую можна паплаціцца жыццём.

У час навальніцы нельга падходзіць бліжэй, як на 15 метраў да высокіх прадметаў, што стаяць асобна: дрэў, слупоў, стагоў сена, ліній электраперадач...

Вельмі небяспечна аказацца ў самую навальніцу на вяршыні гары або ўзгорка. Трэба хутчэй збегчы або скаціцца па схіле ніжэй і схавацца ў ямку або проста легчы на зямлю і перачакаць навальніцу.

Калі навальніца застала вас сярод адкрытай раўніны — таксама лажыцеся. Калі вы купаліся ў рацэ, у возеры, хутчэй выходзьце на бераг.

У лесе можна схавацца пад кустамі, далей ад вялікіх дрэў, што растуць асобна.

У змешаным лесе маланка часцей за ўсё ўдарае ў дуб, таполю, елку, радзей — у бярозу, ліпу, зусім рэдка — у клён, арэшнік.

## Пазнаёмімся

*

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. К. Лібкнехта, 63, кв. 70. Анжэліка Гулік, вучаніца 4 класа.

*

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. К. Лібкнехта, 94, кв. 10. Іра Макарэвіч, вучаніца 4 класа.

*

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Каржа, 4, кв. 36. Наташа Фралова, вучаніца 4 класа.

*

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Волаха, 17, кв. 32. Аксана Зімніцкая, вучаніца 6 класа.

## Яны любяць спяваць



*Эдытка Бяроза са Старыны. Фота Я. Целушэцкага.*

# ВЯСЁЛЫ КУТОЧАК

*

— Мама, я пайшоў купацца на рэчку.
— Холадна сёння!
— Нічога, я, каб не застудзіцца, пакупаюся ў адзенні.

*

— Пайду палью кветкі.
— Навошта? Глядзі, які дождж на дварэ!
— Ну і што, я вазьму парасон.

*

Кантралёр разглядвае білет хлопчыка і гаворыць:
— У цябе білет на звычайны поезд, а ты сеў у хуткі.
Хлопчык адказвае:
— А вы скажыце машыністу, каб памалей ехаў.

*

— Ну як, пашанцавала табе на рыбалцы?
— Не надта. Ледзь не злавіў шчупака, але ён уцёк.
— У мяне таксама уцёк, але мой быў большы.

*

У трэцім класе на ўроку пыталіся пра розных жывёл. Адзін вучань сказаў, што выдра — гэта вадзяная рыба, а мядзведзь усю зіму ў дупле.

## БАРАДАТЫ КАМАР

Голіць муха камара
Брытваю тупою,
Дзе ж уседзець камару —
Круціць галавою.

— Не пайду я да цябе
Больш сюды галіцца,
Ты не голіш бараду,
А ірвеш, сястрыца.

Ходзіць з той пары камар
Дзедам барадатым,
Нездаволена бубніць
Каля кожнай хаты.

**Ст. Шушкевіч**

## АДГАДАНКА

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 9 | · | 2 | + | 2 | = | 20 |
| + | | − | | + | | + |
| 1 | − | 1 | + | 3 | = | 3 |
| · | | · | | · | | − |
| 2 | + | 3 | · | 2 | = | 10 |
| 20 | + | 3 | − | 10 | = | 13 |

*Устаў замест кропак матэматычныя знакі так, каб вынік падлікаў быў правільны.*

## ПАЛІЧЫ

У Петруся столькі ж сясцёр, колькі і братоў, а ў яго сястры Гані ў два разы менш сясцёр, чым братоў. Колькі ж у гэтай сям'і сясцёр і колькі братоў?

**Адрас рэдакцыі: „Зорка“ 15-950** Białystok ul. Wesołowskiego 1